Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару

№ 11—(51). Вільня, 25 сакавіка 1928 году.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

Адміністрацыя „Беларускага Дня“ просіць сваіх чытачоў, якія дасюль не аплацілі падпісной платы, прыслаць падпісныя грошы як у найхутчэйшым часе, бо тым, хто падпіскі ня прышлець, далейшая высылка "Беларускага Дня“ будзе спынена.

**Адміністрацыя.**

## У 10-ыя угодкі.

**(25.III.1918 — 25.III.1928 г.)**

10 гадоў дзеліць нас ад таго мамэнту, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясьціла 25 сакавіка 1918 г. ў Менску Незалежнасьць Беларусі. У гэтым годзе, які можа быць параўнаны з 1848 г., годам вясны Эўропы, усе падняволеныя моцнымі аковамі народы скінулі накінутае ім расейскім імпэрыялізмам ярмо няволі і галасна заявілі аб сваёй волі да незалежнага жыцьця, аб якім лятуцелі даўно. Расейская рэвалюцыя развалiла моцныя сьцены „турмы народаў“ царскай Расеі, сіла якой апіралася на самадзяржаўі цароў, праваслаўі і нацыяналізьме пануючае велікарасейскае нацыі, якая імкнулася ўліць усе народы ў адно „вялікае расейскае мора“.

І адразу ўсе народы б. вялікай Расеі заявілі, аб тым, што яны парываюць сваю сувязь з б. расейскай дзяржавай і прыступаюць да будаваньня свайго ўласнага незалежнага жыцьця. Усе „акраінныя“ народы, якія найцяжэй адчулі цяжар царскага ступайкі-жандара і паліцэйскага кнута, кінулі Расею і парвалі ўсё, што з ёю іх лучыла. Гэтак сама зрабіў беларускі народ. Грамата 25 сакавіка 1918 г. была паказчыкам таго, што народ за кароткі час адраджэньня пазнаў самога сябе і, ратуючыся ў моры расейскага хаосу і бальшавіцкае разрухі, сказаў аб ідэале, які характарызуе народ і творыць яго, аб незалежным жыцьці дзяржаўным. Ня ўсе б. паднявольныя народы здолелі ўтрымаць сьцяг незалежнасьці. Адроджаны расейскі імпэрыялізм, афарбаваўшыся ў чырвань, сымболь крыві, пад лёзунгамі роўнасьці нясучы новую, яшчэ цяжэйшую няволю, здушыў імкненьні да незалежнасьці украінцаў, грузінаў і беларусаў. Ад нас, беларусаў, пачалі бальшавікі сваю імпэрыялістычную палітыку, разганяючы Усебеларускі Зьезд у сьнежні 1918 г. Другія народы — польскі, эстонскі, латыскі, літоўскі і фінскі адваявалі сваё права да вызваленьня з „турмы народаў“ і да незалежнасьці. Цяжкія ахвяры былі паложаны імі за гэтае сваё права.

Шчасьлівейшая іх доля, чымся наша. Але прызнацца трэба, што воля і імкненьні да незалежнасьці былі ў гэтых народаў сільнейшыя.

Для нас незалежнасьць ізноў астаецца ідэалам.

Ен жыве ў душы кожнага сьвядомага беларуса, як яго найчысьцейшае, найсьвяцейшае пачуцьцё.

Але гэта яшчэ не азначае таго, што беларусы-незалежнікі зьяўляюцца ворагамі тае дзяржавы, у якой воляю лёсу і гісторыі прышлося ім жыць.

Незалежнасьць толькі тады можа быць зьдзейсьнена, калі ў самым народзе будзе біць крыніцай нацыянальная сьведамасьць, калі ў народзе знойдуцца культурныя сілы, якія-б маглі наладзіць бег грамадзкага ладу ў незалежнай дзяржаве і калі вонкавыя абставіны чужых імпэрыялізмаў, што зьяўляюцца ворагамі незалежнасьці данага народу, зьменяцца на карысьць незалежнасьці.

Якраз гэтых канечных прадпасылак не хапала ў 1918 г. падчас акту 25 сакавіка.

І дасюль мы, беларусы, пазбаўлены іх. Асабліва адчуваецца няхват культурных грамадзкіх сілаў.

Узгадаваньне і вытварэньне іх можа наступіць толькі тады, калі беларусы, заняўшы лёяльную пазыцыю ў адносінах да дзяржаўнага ладу, здолеюць выкарыстаць тыя магчымасьці нацыянальнага жыцьця, якія даюцца конституцыяй.

І з гэтага пагляду выходзячы, трэба прызнаць, што ўся работа чырвонага Інтэрнацыяналу якраз адцягвае магчымасьць будаваньня незалежнасьці Беларусі, бо яна заганяе беларускі рух у падпольле, вырывае ўсе культурныя і маладыя сілы з бегу нашага жыцьця, а на ўвесь беларускі адраджэнскі рух пад Польшчай кладзе кляймо антыдзяржаўнасьці. А гэта якраз на руку расейскаму імпэрыялізму, які заўсёды аднолькава варожы беларускай справе.

## Забойства М. Гурына.

У пятніцу 16 сакавіка, каля 11 гадзіны ўночы ў кавярні Тамашэвіча ў Вільні на Ягельлёнскай вул. ад кулі забойцы згінуў беларус, б. супрацоўнік „Беларускага Дня“ Міхал Гурын.

Гэта ўжо другі раз стралялі да Гурына, першы замах улетку 1927 г., які меў месца ў Горадне, свае мэты не асягнуў — Гурын вылячыўся ад ран і пражыў яшчэ 1½ года.

З сумам і ў цяжкім настроі пішам гэтыя радкі. Як-бы не глядзець на асобу і дзейнасьць забітага, да якой-бы орыентацыі не належаць — адно мусіць прызнаць кожны беларус, што нейкія цёмныя сілы зацягнулі свае сеці над нашым жыцьцём, атруцілі яго бег і руйнуюць усе правы асабістага, грамадзкага, культурнага і палітычнага беларускага жыцьця, марнуюць тое невялічкае нашае багацьце, якое маем, з радоў сьвядомых грамадзян, культурных работнікаў, вырываюць людзей і кідаюць іх у ахвяру таму чорнаму злому і антыграмадзкаму богу, які выслаў на нашую зямлю гэтыя цёмныя сілы.

Міхал Гурын—гэта такая ахвяра беларускага руху. Яшчэ не пара даць об'ектыўную ацэнку ягонае дзейнасьці, яшчэ занадта востра адчуваюцца галасы процi гэтае дзейнасьці і за яе прамаўляючыя, яшчэ чутны гук стрэлаў забойцы Гурына і сьвежая магільная зямля, дзе знайшла спакой гэтая ахвяра беларускага руху.

Адно можна сказаць—ува ўсіх беларусаў павінна заварушыцца сумленьне і вырваць з душы й сэрца крык протэсту і роспачы проціў тых цёмных сілаў, якія ўлажылі аружжа ў рукі забойцы, папхнулі яго да расправы з чужым, мо' нязнаным для яго чалавекам, вырваўшы з ягонага сэрца ўсё людзкое, вырвалі і самога забойцу з радоў жыцьцёвага, штодзеннага змаганьня за праўду і долю шляхамі людзкое барацьбы, а ня зьверскае расправы.

Мы ня ведаем, ці забойца ёсьць беларусам, калі-ж так, то вывад з трагічнага морду яшчэ

## Культурная самастойнасьць беларусаў.

Сярод закідаў, стаўляных проціў Беларускага Адраджэньня, яго патрэбы і яго самастойнасьці, а што йдзе за гэтым — і яго ўдачы — часта спатыкаемся з закідам, што беларусы зусім ня маюць культурных здабычаў у прошласьці, што ўсё трэба пачынаць ствараць, а тымчасам другія народы зайдуць далёка ўперад, і Беларускаму Народу, як так му, пагражае заўсёды культурная адсталасьць. Пагляд такі адносіцца аднальково так да культуры матар'яльнай, як і да культуры духовай. Цікавым тут зьяўляецца тое, што ў гэткі спосаб думаюць ня толькі людзі іншых нацыяў, мала знаёмыя з беларускім Адраджэньнем, але спатыкаюцца і сьвядомыя беларусы, якія думаюць такжа і ўважаюць, што Беларусы, дзеля гэтага злучацца з нейкім іншым народам. А калі ня могуць істнаваць самі, то значыць мусяць прыняць і культуру гэтага народу. Звычайна ў такіх выпадках кажацца: „пакуль што“, „да пэўнага часу“, але ніколі не гаворыцца да якога іменна часу, бо калі прыняць, што беларусы пакуль што павінны далучыцца да чыесь культуры, то вельмі мала застанецца шансаў на тое, што беларуская культура ў такім значэньні патрапіць самастойна разьвівацца, а гэта значыць, што такім злучэньнем мы самі ўстрымоўвалі-б свой культурна-нацыянальны развой.

Пагляд гэткі вынікае проста з малой знаёмасьці беларускае гісторыі, а так сама супэльнасьці сучаснага беларускага руху. Пастараемся даць карокі агляд культурнай дзейнасьці беларусаў у прошласьці, сяньняшняга культурнага стану і магчымасьці разьвіцьця яго і пашырэньня культурных уплываў на масы беларускага народу.

Вялікай недарэчнасьцяй зьяўляецца пагляд, быццам няма беларускае культуры. Аднак ня будзем пярэчыць, што беларуская культура знаходзіцца цяпер у стане пэўнага аслабленьня, ня мае такое здольнасьці экспансіі, як культурныя ўплывы другіх народаў і дзеля гэтага можа паддавацца чужым уплывам.

Але якраз гэта зьяўляецца доказам шкоднасьці нейкага злучэньня, асабліва з культурай мацнейшай, бо даказаным гісторыяй фактам ёсьць тое, што мацнейшая, больш экспансыўная ў дадзеным народзе культура здолее здабычы слабей-

цяжэй, яшчэ сільней кладзе жах і сум на душу кожнага беларуса.

Міхал Гурын паявіўся ў радох беларускіх працаўнікоў пасьля вайны. Быў сябром Камуністычнае Партыі і рэдактарам „Савецкай Беларусі" і, здольны публіцыстяк відаць карыстаўся, поўным давер'ем камуністычных вярхоў, і яго як камуністага беларуса партыя выслала на нелегальную работу ў Заходнюю Беларусь.

Тут ён зьяўляўся відным працаўніком III інтэрнацыяналу, належаў да Цэнтральнага Камітэту КПЗБ і блізка быў знаёмы з мэтодамі працы камуністых на беларускіх землях. Але адно трэба сьцьвярдзіць, што Гурын быў засёды беларусам. Гэтая беларуская нацыянальная сьведамасьць пакіравала ім, калі ў 1924 г. ён з другімі сябрамі падпольнае нелегальнае арганізацыі парывае з загадамі маскоўскага камуністычнага цэнтру і ўтварае групу сэцэсыяністых у радох КПЗБ. У свой час беларуская прэса прывітала сэцэсію ў КПЗБ, як пашырэньне беларускага нацыянальнага фронту. Сэцэсыяністыя з КПЗБ выхадам з яе запратэставалі процін антыбеларускага характару дзейнасьці праваднроў камуністычнае нелегальнае работы на беларускіх землях. Гэты паступак Гурына сьведчыць аб яго адвазе і шчырасьцi беларускага самасазнаньня. Ужо тады ён добра ведаў, што III-ці інтэрнацыянал, проціў загаду якога выступіў Гурын, будзе старацца зьнішчыць яго. Мы ведаем, што менскія беларусы моральна і матар'яльна падтрымалі Гурына, як сэцэсыяністага, няздольныя там у Радавай Беларусі на гэткі крок. Аднак сэцэсія КПЗВ, пакіненая без дапамогі, не магла ўстаяць процiў націску справа і зьлева. Гурын апыніўся ў турме. І там той працэс, які пачаўся яшчэ задоўга перад арыштам, разьвіўся ў душы Гурына да канца. Ён ясна здаў сабе справу, што камуністычная, інтэрнацыянальная работа на беларускіх землях нішчыць малады і чысты беларускі рух у варунках палітычнага жыцьця пад Польшчай. Гэта было найглыбейшым перакананьнем Гурына.

Вышаўшы з турмы, Гурын шукае шляхоў як-бы зьвязаць беларускую работу з легальным дэмакратычным рухам у Польшчы. Ён носіцца з проектамі арганізацыі беларускае соцыялістычнае партыі, зьвязанае таварыскімі адносінамі з Польскай Соцыялістычнай партыяй. На шляху да гэтага творыць разам з беларускай групай эсэраў соцыялістычную групу. Пасьля паўстаньня „Беларускага Дня", супрацоўнічае ў ім аж да пачатку працэсу Грамады. У сувязі з паказаньнем сьведкі Ясінскага, які выставіў Гурына ў ролі інфарматара аб дзейнасьці Грамады задоўга да яе ліквідацыі, сам Гурын адыходзіць ад супрацоўніцтва ў „Бел. Дні".

Урэшце, 16 сакавіка падае ад кулі забойцы. Забойства аплятае цэлая сець загалкаў і легэндаў. Сьледзтва і суд высьвяцяць праўдзівае падложжа забойства.

Адно пэўнае, што забіты Гурын унёс у магілу высьвятленьне свайго ўдзелу ў раскансьпіраваньні Грамады, бо толькі ў красавіку меў станнуць перад людзкім судом. Лёс яго паклікаў хутчэй перад вочы Найвышэйшага Суда.

А так сама пэўна тое, што тая цёмная сіла, якая пакіравала рукой забойцы, не пазволіла Гурыну высьвяціць сваіх адносін да працэсу Грамады і да пасаджаных на лаве абвінавачаньня.

Відаць, гэтая сіла баялася выяўленьня праўды, у сьвятле якой мог развеяцца-б арэоль камуністычных дабрадзействаў для беларускага народу.

Гэтая-ж цёмная сіла абцяжыла палажэньне падсудных, а ёй толькі аб тое і ходзіць, каб мець магчымасьць крычаць аб „тэроры" ў Польшчы.

---

Шмат якія газэты зьвязваюць забойства М. Гурына з працэсам Грамады. Паміж іншымі, „Kurjer Wileński" з дня 21 сакавіка піша: „У працэсе „Грамады" Гурын меў быць дапрошаны ў красавіку. Яго паказаньні, надта абвінавачваючыя грамадаўцаў, маюць вялікае значэньне для

---

шай, можа на'т дужа значныя, выкарыстаць для сябе, ператварыць і даць чалавецтву, як свае. Так, у старажытнасьці Рымляне вельмі мала вытварылі самастойных культурных вартасьцяў, мелі за тое вялікія арганізацыйныя здольнасьці і экспансыўную сілу. Дзеля гэтага Рымляне здолелі ўвабраць у сябе культурныя здабыткі іншых народаў, пад той час слабых, як грэкі, усходнія гаспадарствы і патрапілі стварыць будынак культуры, які дасюль яшчэ ня страціў на вартасьці, а яго інстытуцыі доўга яшчэ трывалі ў Эўропе а навет яшчэ сяньня, ў галіне прыватнага права, інстытуцыі рымскія зьяўляюцца ўзорам правадаўства.

Беларускія культурныя вартасьці буйна цьвілі і разьвіваліся ў прошласьці, маюць, як пастараемся выказаць, магчымасьць натуральнага развою ў сучасны мамэнт і ў будучыне; Беларускі Народ мае права і даныя на ўсестароннае культурна-нацыянальнае Адраджэньне, якое вялікімі крокамі йдзе ўперад і пашыраецца на мільённыя масы, падносячы іх культурны і грамадзкі ровень.

Каб адказаць на пытаньне, ці мае даны народ нейкія культурныя здабыткі, трэба перш за усё адказаць на пытаньне, што такое культура. Тэрмін „культура" стаўся цяпер вельмі штодзенным, і не заўсёды ўкладаецца ў яго аднолькавы зьмест. Часамі пад „культурай" данага народу разумеюць дабрабыт яго жыхароў, часамі разумеюць пад гэтым толькі духовы яго даробак і г. д.

Пад словам „культура" будзем разумець усе здабычы чалавецтва на ўсякім полі, усё, што пашырае яго інтэлект, што падносіць яго моральна і пашырае яго панаваньне над сіламі прыроды ў сэнсе дастасаваньня іх да патрэбаў людзкіх. З гэтага азначаньня вынікае тое, што культура дзеліцца на дзьве вялікія галіны — духовую і матар'яльную. Падзел гэты варункуецца ня толькі сваім об'ектам, але і сваёй сутнасьцяй. Матар'яльныя здабычы, як напр. у галіне тэхнікі, адразу становяцца ўнівэрсальнымі ў тым сэнсе, што становяцца даступнымі ўсім.

Пытаньне аб іх увядзеньні зводзіцца да справы большага ці меншага працягу часу. Так напр. было з вынаходам друку, паравых машынаў, чугункі і г. д.

У гэтай галіне не гаворыцца аб здабычах нацыянальных, гаворыцца аб здабычах усялюдзкіх, і толькі большае ці меншае пашырэньне вынаходу ў даным народзе, карыстаньне з яго становіць

спраоы, дзеля гэтага, людзі, каторыя жадалі апраўданьня грамадаўцаў, былі вельмі зацікаўлены ў тым, каб ня даць Гурыну магчымасьці паказваць перад судом".

Згаджаючыся з тым, што забойства Гурына знаходзіцца ў арганічнай сувязі з працэсам Грамады, лічым аднача сна вялікай памылкай пагляд, быццам забойца быў аружжам у руках людзей, каторыя рупіліся аб апраўданьні падсудных ў справе Грамады, альбо аб стварэньні варункаў для магчыма лёгкага прыгавару.

Нам невядома, якія паказаньні даваў на сьледзтве нябожчык М. Гурын. Але калі праўда тое, што ён зьяўляецца галоўным сьведкай пракуратуры ў гэтай справе, то шак паказаньні яго недзе запісаны чорным на белым і факт забойства яго ня толькі гэных паказаньняў яго ня выкрэсьлівае, але наадварот — можа надаць ім павагу амаль ня бясспрэчнай праўды. І калі паказаньні яго сапраўды зьяўляюцца гэтак цяжкімі для падсудных, то ўзмацаваньне іх не магло ляжаць у інтарэсах абароны. Якая цёмная сіла кіравала рукою забойцы — сьледзтва павінна выявіць; адно толькі можна цяпер сказаць напэўна, што забойства М. Гурына не магло мець на мэце стварэньня варункаў для апраўданьня падсудных у справе Грамады.

## Хто яны такія?

Нядаўна ўбачыўшая Божы сьвет новая часопісь пад назовам „Грамадзянін" зьяўляецца далейшым працягам благой памяці „Беларускага Слова" ці, як на вёсцы казалі, „Сквернасловія". „Грамадзянін" зьяўляецца органам тых людзей, якія выдавалі „Беларускае Слова", тварылі разнаітыя „Рады", якія гуртаваліся вакол асобы знамянітага „д-ра" Павлюкевіча.

Нічога дзіўнага ня было-б, што гэныя людзі далей выдаюць часопісь, ведама трэба што-колечы рабіць. Розныя абставіны змусілі іх зьмяніць назоў газэты, між інным пэўна скланіла іх да гэтага і тое, што ў двох акругох эдолелі іх выбарныя сьпіскі атрымаць чуць ня 100 (сто) галасоў. На гэтыя сто галасоў злажыліся агітатары, інструктары і іншыя наёмныя людзі. І гэта ўсё нічога. Ведама зьмяніўся адрэс „хаткі" — чытай ігорнага прытону — трэба было і газэту зьмяніць. Людзі асталіся тыя самыя.

І вось гэныя людзі, якія гуртаваліся вакол „Беларускага Слова", а цяпер выдаюць „Грамадзяніна", маюць сьмеласьць гаварыць, што бяруць ініцыятыву правясьці моральную санацыю беларускага жыцьця.

Хто-ж яны самі? Не патрабуем доўга шукаць адказу. Бяром у рукі „Нашую Бацькаўшчыну" (№ 1 — 15. II. 1928 г.), дзе нядаўны супрацоўнік і кумпан нашых „моральных санатараў" грам. Л. Міцько даволі падрабязна іх характарызуе.

Вось што піша грам. Л. Міцько:

„Як ведама, набралася гэтая „беларуская супалка" з розных банкрутоў былога царскага ўраду, якія калісь вялі захопную расейскую палітыку. Пасьля таго, як барацьба расейскіх манархістаў з сучасным расейскім урадам кончылася не на іх карысьць, цэлы табун гэтых банкрутоў нахлынуў, як ваўкалакі, на нашую зямлю, каб ізноў раскашавацца з мазаля працоўнага беларускага народу, як калісь за цара. Тады і зьявілася т. зв. „Беларуская Нац. Рада". Калі хоць трохі разабрацца ў яе павадырох, дык знойдзецца тут збор дружыны ўсялякай масьці і нацыянальнасьцяў, з розных краёў: і з Нямеччыны, і з Лацьвіі, і з Украіны і з Расеі — верных слуг даўнага расейскага ўраду, няма тут толькі сьвядомых беларусаў.

Усе гэтыя Паўлюкевічы, Вярнікоўскія, Канапацкія, Іўжынкі, Вэрнэры, Ваўноўскія маюць аднолькавае выпаленае сумленьне, адну мэту — пажывіцца на беларускім нясьведамым народзе, бо гуляць яны навучыліся за ўраду царскага,

---

аб большай, ці меншай цывілізованасьці данага народу.

Матар'яльная культура не абуслоўлівае культурнай самастойнасьці данага народу.

Застаецца другая галіна, галіна культуры духовай. Тут ужо кожны народ гаспадарыць для сябе і дае доказ свае самабытнасьці. Толькі духовай культурай, да якой залічаем мову, звычаі, песьні, легэнды, павер'і і др. вырозьніваецца даны народ. Гэтыя асаблівасьці ня могуць быць адарванымі ад народу, пакуль ён жывы нацыянальны арганізм.

Беларускі народ на арэну культурнага жыцьця, аб якім знаходзім помнікі, выступае як і другія славянскія народы, каля 16 стагодзьдзя, разам з прыняцьцем хрысьціянства. Ужо і да гэтага была ў славянскіх плямёнаў, якія злажылі беларускую галіну ўсходняга славянства, арганізацыя, што пазваляе з пэўнасьцяй сказаць аб істнаваньні пэўнага культурнага разьвіцьця. Пасьля прыняцьця хрысьціянства гэтыя плямёны хутка падносяць свой культурны ровень да такой вышы, што раўняюцца з Візантыяй, якая тады была найбольш культурным цэнтрам.

З хрысьціянствам прышла пісьменнасьць, якая давала магчымасьць зрабіць нязьнішчальнымі ўсе новыя думкі і перадаваць іх адны другім, што прысьпяшала поступ. На Беларусі пісьменнасьць, сьпярша ў мове баўгарскай, для народных масаў малазразумелай, шырыцца значна. Ведама, сярод тае часткі тагочаснага грамадзянства, якое ў сваёй працы стыкалася з пісьмом, у духавенстве. У лічных ужо зараз пасьля ўвядзеньня хрысьціянства манастырох манахі перапісваюць духоўныя кнігі да набажэнства і твораць духоўныя поэтыцкія творы. Перапісваньне вядзецца арганізована. Напрыклад у XII веку ў Полацкім жаноцкім манастыры перапісваньнем займаюцца ўсе манахіні пад кіраўніцтвам ігумені Аўфрасіні, вялікай беларускай культурнай дзеячкі таго часу. Рукапісных кніжак ад часу прыняцьця хрысьціянства да канца 16 в., да часу вынаходу друку захавалася, значная колькасьць. Ад'значаюцца многія вялікім хараством літараў і мастацтвам орнамэнтацыі, у якой спатыкаем чыста беларускія мотывы — напр. г. зв. Тураўскае эвангельле з канца XI стагодзьдзя. Літэратурная дзейнасьць не аграніч'валася перакладамі, паяўляецца і цьвіце самастойная творчасьць. Тэмы найбольш рэлігійныя, але спатыкаюцца так

працаваць ня ўмеюць, а жыць трохі скрамней чымся за цара не згаджаюцца. Калі хто новы луча ў гэтую арганізацыю, то ён мусіць стаць або цацкай у гэтых руках і рабіць тое, што яму кажуць, ці лепі кажа Паўлюкевічаў прыклад: выбарн. інструктары Шыбут, Гарбун і інш., або трохі разглядзеўшыся ўцякаюць адтуль як мага (Пятровіч, Шулейка і г. д.), або нарэшце стануць рэнэгатамі ды прадаюць за гарэлку, за грошы сумленьне. Іншых людзеў тут ня бывае.

Справа Кавэрды прыбірае ўсю гэтую арганізацыю, ёй ганарацца, а газэты з таго часу старанна хаваюцца ў „архіве Хаткі“.

Далей кажацца аб сумысным ігнараваньні і перашкаджаньні па шырэньню беларускай працы, як такой. А вось у канцы так характарызуецца моральная вартасьць гэтых людзей.

Адзін ідэал вяжа сяброў гэтай шантажнай супалкі, гэта дачакацца да пары, калі ізноў будзе цар і раскашавацца з народнга мазаля. А пакуль гэта будзе, дык рабіць розную крутню на Беларусі і дзеля будучыні ня выпушчаць яе з сваіх капцюроў. Гутараць у гэтай арганізацыі парасейску. Матар'ял для г. зв. „Беларускага Слова“ бяруць з расейскіх манархістычных газэтаў, як напр. „Борьба за Россію“, Возрожденіе“, „Сегодня“, гэтыя-ж расейскія газэты рассылаюцца па вёсках для сялян.

Штодзенна п'янства ад рана да вечара, распуста з жанчынамі, на якую ласы навет і тыя, што маюць сівы волас у галаве, круцельства, неаддаваньне грошы супрацоўнікам, агідны пасьціг за нажывай, бойкі, грубіянства, палітычны шантаж, газэтныя блёфы — вось трохі з тых красак, якія прыбіраюць гэную арганізацыю пад назовам „Бел. Нац. Рада“.

А вось, што піша аб гэтых самых людзях грам. Мацей Пятровіч—войт Палачанскае воласьці, Б. Віцэ-Старшыня Бел. Нац. Рады і Партыі, сябра інструктар Цэнтральных Камітэтаў усіх Паўлюкевічавых арганізацыяў:

„Паўлюкевіч, як тую нявінную авечку, хацеў прынясьці ў жэртву мяне і беларускія працоўныя гушчы — у жэртву для міжнароднай банды манархістаў і капіталістаў, на чале якой стаіць „Генэральны Штаб“ у Англіі, — адкуль на гэту нягодную правакацыйнаю работу дастае Паўлюкевіч вялізарныя грошы, каб падгатаваць грунт ды разам з іншымі паваліць уладу бальшавікоў і адбудаваць прадваенную царскую Расею. Гэтакім парадкам гэтыя паны маюць скасаваць Польшчу, бо па іх мысьлі Польшча гэта „бярно паложанае на дарозе Расеі ў Эўропу. Паўлюкевіч мне нераз казаў, што „пакуль трымаюць уладу ў Расеі бальшавікі, датуль жыве Польшча... Расею возьмем і канец Польшчы... Польшча гэта мыльная бурбалка для нас...“ Дзеля гэтага кампанія Паўлюкевічава мае галоўнай мэтай справакаваць вайну паміж Польшчай і СССР.

Шмат чаго ёсьць аб афэрысту Паўлюкевічу і Вярнікоўскім сказаць, але дужы слабога змушае маўчаць, я маўчу... а гэта бясстыднае „стварэньне“ пазваляе сабе пісаць усялякую нягодную ману, брахню і бруд—абы толькі атуманіць розум здаровага чалавека—а бедная папера ўсё зносе.

Кожная палітычная арганізацыя зьбірае сяброўскую складку, на утрыманьне, а ў Паўлюкевіча — наадварот: кожны сябра дастае ў месяц 25 злотых пэнсіі, а інструктары ад 100 зл. да 500 зл. ў месяц ды яшчэ білеты, дыеты, рэстараны і готэлі. Адкуль усё гэта бярэцца?... Вось дык паслухайце: апрача розных памог у Польшчы, ён дастае вялізарныя грошы праз Гданск ад Міжнароднага Манархічнага Камітэту ў Англіі“.

Беднае і няшчаснае беларускае жыцьцё! Як доўга яшчэ будуць мець нахальства выступаць з прапазыцыямі аздараўленьня беларускага жыцьця тыя, якія з гэным жыцьцём нічога супольнага ня маюць? Калі ўжо прыйдзе той час, што розныя людзі „бывавшія во всех столицах міра“ і іншыя „шэйна-катарынкі“ перастануць чмуціць народ, выступаючы ад імя беларускага грамадзянства?

Бо, панове „моральныя санатары“, пры тых

---

сама і сьвецкія (напр. легэнда аб Мэркурыю. Слова аб Палку Ігараве). Царкоўна-славянская мова з часам уступае г. зв. стара-славянскай, больш зразумелай для народу. Зьмест гэтых твораў выказвае глыбокую эдукаванасьць аўтараў і арыгінальнасьць думак. Напр. „Посланіе Кліімента Смаляціча“ з 12 в. выказвае думку, каб сьвятое пісьмо разглядаець і разумець не па літары, а па зьместу і духу. У тым-жа 12 веку Аўрам Смаленскі заклаае школу красамоўцаў, піша свае прыгожыя творы Кірыла Тураўскі. Маем тады так сама народную рэлігійную творчасьць, з большым мастацкім характарам — напр. легэнда аб Мэркурыі. Тагочасныя пісьменнікі згодна з духам часу выстаўляюць тып ідэальнага чалавека-грамадзяніна, відзім узрост нацыянальнага пачуцьця.

У 13 і 14 сталецьцях утварылася адзінае беларускае гаспадарства, пасьля прылучэньня беларускіх княжстваў да Літвы. Праўда, беларусы завуцца тады „русамі“, але тэрмін гэты мае сваё тэрыторыяльнае абазначэньне, вельмі сьцісла і не індыфікуецца з Масквою, ці велікарусамі. У гэты час склалася адзіная беларуская народная мова, якая ўжывалася ў пісьменнасьці і выцісьніла мала зразумелую царкоўна-славянскую мову. Мова беларуская становіцца за панаваньня Альгерда афіцыяльнай мовай княжства, на ёй выдаюцца ўсе акты, і беларускай мовай карыстаюцца вышэйшыя станы грамадзянства. Віленскі пралат Эразм Вітэлі ў прамове з 1501 г. кажа рымскаму Папе гэтак: „Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны (беларусы) насяляюць асяродак дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іх мовай, бо яна далікатная і больш лёгкая“. Навет для ўласнай Літвы і Жмудзі ў ёй пісаліся заканадаўчыя акты. Усё гэта робіцца без спэцыяльнага націску з боку беларусаў, якія не праяўлялі захопных тэндэнцыяў, уплывы беларускія тлумачацца іх высокай культурай. Мова 15 сталецьця зусім ужо вольная ад царкоўна-славянскіх барбарызмаў. Вось прыклад з „Праўнага лісту Караля Казіміра 1468 г.: „Казімір, Боскаю Міласьцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі і рускі, княжа прускае і жамаідзкі, і іных, чыним знамяніта сім нашым лістом іж мы з князьмі і з паны радаю нашага Вялікага Князьства Літоўскага і з усім паспольствам сагадаўшы, урадзілі есьмо так“. Ужо ў 15 веку пашыраецца ў Беларусі ўплыў рымскае заходняе культуры. Залатой парой беларускага старога пісьменства зьяўляецца XVI век. Спатыкаем

моральных кваліфікацыях, якія вы маецэ, вы можаце выступаць толькі, як моральныя асэнізатары. Толькі!

І ў гісторыі беларускага руху, ў гісторыі беларускага адраджэньня вы былі, ёсьць і астанецеся асэнізатарамі беларускага грамадзкага, нацыянальнага і палітычнага жыцьця.

## Корэспондэнцыі.

### Наша сьведамасьць

(*в-ка Гулі, Пастаускі пав.*)

Нацыянальная сьведамасьць з кожным днём пашыраецца нават па найглушэйшых кутках нашых вёсак. Калі паглядзім і параўнаем дзень сягодняшні з учарашнім, дык і то можна заўважыцч нейкія зьмены на лепшае. Тыя, якія ўчора чураліся мужыцкай мовы, якія называлі сябе масалямі або палякамі, глядзіш — сягоньня яны бягуць, каб паслухаць чытаньня свае беларускай газэты і прымаюць актыўны ўдзел у грамадзкай працы. Кожнаму, цяпер, вясковаму селяніну мілагучнай і цікавай здаецца свая родная мова, да якой учора ён стыдаўся прызнацца.

Бязумоўна, што гэта ёсьць рэзультат працы розных беларускіх газэт і часопісаў. Бо рэдка дзе яшчэ знойдзецца такая вёска, каб там, тая, ці іншая беларуская газэта ня мела свайго доступу, а ў іншых вёсках бывае што даходзяць розныя газэты. Да такіх вёсак належыць і вёска Гулі. Сюды нясуць прамень сьвятла, амаль ня ўсе беларускія газэты. Найпапулярнейшай з іх гэта „Беларускі Дзень“. Сьвядомейшыя сяляне не даюць змарнавацца ані аднаму нумару гэтай газэты, але зьбіраюць яе ў гадавікі, каб магчы карыстацца заўсёды карыснымі парадамі гаспадарчага аддзелу. Цікавіцца „Беларускім Днём“ таксама і моладзь. *Вясковы.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Чым кормяцца гаспадарскія расьліны?

Усе бяз мала прадметы, якія знаходзяцца на зямлі, складаюцца з розных іншых рэчаў, напрыклад: малако, складаецца з тлустасьці, сыра і вады; бульба з вады і мукі (крахмалу).

Есьць навука, якая займаецца досьледамі, з якіх рэчаў складаюцца розныя прадметы. Навука гэтая называецца хіміяй, а людзі, каторыя займаюцца гэтай навукай, называюцца хімікамі. Тое, што мы завем рэчамі, або прадметамі, хімікі называюць *целамі.* На зямлі знаходзяцца целы трох родаў: 1) сталыя целы, якія маюць пэўную цьвёрдасьць і постаць якіх можна зьмяніць толькі ўжыўшы пэўнай сілы, нпр., жалеза, дзерава, гліна, вапна і г. д.; 2) плынныя целы, якія можна разьліць, а разьліўшы яны сплываюць у найніжэйшае месца, нпр., малако, вада; 3) целы лётныя, інакш газы, якія стараюцца разыйсьціся ў паветры, нпр., полымя, вадзяная пара і г. д. Шмат целаў гэтага роду для людзкога вока нявідочных, як нпр. паветра. Хімікі пераканаліся, што пераважная колькасьць целаў, знаходзячыхся на зямлі, складаецца з іншых целаў. Другія зноў целы становяць асобную цэласьць.

**II. Целы, з якіх складаюцца расьліны.**

Па доўгай і мазольнай працы хімікі даведаліся, з чаго складаюцца расьліны. Ведама цяпер, што ўсе гаспадарскія расьліны складаюцца з тых

тады ўжо уплывы польскія, асабліва ў навуковай тэрміналёгіі. Гуманізм выдаў найслаўнейшага беларуса і патрыёту, першага ў Усходняй Славяншчыне друкара д-ра Францішка Скарыну з Полацку. Вучыўся ён у кракаўскім унівэрсытэці, пасьля ў Падве і атрымаў вучоны тытул доктара вызваленых лекарскіх навук. Пазнаўшы адкрыты нядаўна вынаход друку, Скарына ад 1517 г. друкуе беларускія кнігі пры дапамозе беларускіх магнатаў. У Празе Скарына надрукаваў пераклад зенае на беларускую мову эвангельле, што становіць вялікую здабычу ў беларускай культуры. Друкаваная Скарынай Біблія была трэцяй па ліку, пасьля нямецкай і чэскай. Захаваны адзіны экзэмпляр знаходзіцца ў Брытанскім Музэі ў Лёндане.

У сваіх прадмовах да друкаваных кніжак Скарына выказвае прычыны таго, што рэлігійныя кніжкі друкуе ён у беларускай мове, хаця ў набажэнствах ужывалася царкоўна-славянская: „Іжэ мя міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў“, — адна прычына — а другая: „абы брацьця мая Русь (тагочасны назоў Беларусі) людзі паспалітыя, чтучы маглі лепей разумеці“. Гэта выказвае, што слаўны гуманісты быў вялікім патрыётам, і высока культурным чалавекам, які тады ўжо разумеў, што сапраўднае культурнае разьвіцьцё народу можа адбыцца толькі ў яго роднай мове.

У 1525 г. Скарына пераяжджае з Прагі ў Вільню, куды перавозіць друкарню і друкуе свае кнігі ў сталіцы краю. Гэты 1525 г. зьяўляецца пачаткам беларускага друку на Беларусі. У Вільні Скарына знаходзіць шмат культурных людзей, якія цэняць яго працу і памагаюць, як вядомы віленскі бурмістар Якуб Бабіч, Багдан Онькаў і магнаты. Выданьні Скарыны вельмі прыгожыя і выразьняюцца дасканалым выкананьнем. Для адтварэньня культурнасьці тагочаснага беларускага грамадзянства трэба адʼзначыць, што калі ў Вільні памагалі мяшчане Скарыне ў яго працы, ў Кракаве і ў Маскве някультурны фанатызм нішчыў друкарні (Звойпольту ў Кракаве, Фёдараву і Мсьціслаўцу ў Маскве, там многа пазьней).

Друкарня Скарыны адчыніла новую эру ў культурным паходзе і адыграла вялікую культурную ролю на Славянскім Усходзе. Паяўляюцца друкарні ў многіх другіх мясцох — Несьвіжы, Заблудаве (Рыгора Хадкевіча), Цяпіне. За часо

самых целаў. Тая толькі ёсьць розьніца, што ў розных расьлінах гэтыя самыя целы выступаюць у розных колькасьцях. Найважнейшымі целамі, з якіх складаюцца гаспадарскія расьліны, зьяўляюцца: вугаль, вада, азот, фосфар, паташ і вапна. Калі спалім сноп збожжа, то калі згіне дым, астанецца жменя попелу. Дасьведчаньне вучыць нас аб тым, што ў снапе збожжа знаходзяцца целы, якія могуць спаліцца і, як полымя, і дым, гінуць у паветры і такія целы, якія ня могуць спаліцца, а астаюцца на месцы, дзе збожжа палім, як нпр. попел. Кожная гаспадарская расьліна складаецца з такіх пальных і ня пальных часьцяў.

З паказаных вышэй целаў, вугаль, вада і азот зьяўляюцца целамі, якія могуць паліцца, а фосфар, паташ і вапна тымі, якія ня паляцца. Целы, якія ня паляцца, завуцца мінэральнымі целамі.

### III. Ці расьліны жывуць і патрабуюць спажывы.

Хаця расьліна ня можа дабравольна рухацца, аднак у шмат чым яна падобная да жывёлы. Як жывёла ў пачатку свайго жыцьця жыве толькі малаком маткі, так маладая расьлінка, пакуль дастане лісьцьцё і карэньні, жыве тым, што мела ў сабе зярня, з якога расьліна вырастае. Так, як жывёла, мае і расьліна свой век маладасьці, росквіту, сьпеласьці, старасьці і скону. Як жывёла без вады жыць ня можа, так сама і расьліна без вады высыхае. Як жывёла, таксама і расьліна патрабуе спажывы. Каб аб гэтым пераканацца, вучоныя людзі зрабілі некалькі дасьведчаньняў.

Апішам гэтыя дасьведчаньні:

I-шае дасьведчаньне. Засаджана ў двох вазонах па некалькі зярнят рапаку. Рапак у абодвух вазонах пасходзіў і рос зусім добра. Калі рапак меў ужо некалькі лісткоў, накрылі яго шкляным слаём; такім чынам, сьвежае паветра не магло дастацца да рапаку. Па некалькіх днёх рапак накрыты шкляным слоем зьвяў і высах. Рапак не прыкрыты рос далей. Дасьведчаньне гэтае пераконывае нас аб тым, што расьліна бяз сьвежага паветра жыць ня можа.

II-гое дасьведчаньне. У вазон усыпана дробнага добра перапаленага на агні пяску. На гэтым пяску пасадзілі рапак. Рапак узышоў і паказаў маленькія лісточкі. Пасьля аднак пачаў сохнуць. Думалі, што рапак сохне дзеля таго, што пясок перапалены быў вельмі сухі. Пачалі тады пясок паліваць чыстай вадой, так званай дысталяванай, якую можна атрымаць на скрапленьні пары. Нічога гэтае паліваньне не памагло, рапак міма ўсяго высах. Дасьведчаньне гэтае паказвае нам, што расьліна, апрача паветра і вады, патрабуе яшчэ іншае спажывы, якое ня было ані ў выпаленым пяску, ані ў чыстай вадзе.

III-цяе дасьведчаньне. Насыпана да некалькіх дайнічак сухога. перапаленага ў агні пяску, а да гэтага пяску дадана тых целаў, з якіх расьліны складаюцца, аб якіх мы ўжо вышэй успаміналі. У аднэй дайнічцы дадана да пяску азоту, у другой фосфару, ў трэцяй паташу і г. д., у аднэй урэшце дадана ўсіх гэтых целаў г. зн. азоту, фосфару, паташу і вапны. Што паказалася! Рапак ува ўсіх дайнічках высах, апрача тае, ў якой усе складовыя часткі расьліны знаходзяцца. У дайнічцы, ў якой да перапаленага пяску дадана азоту, фосфару, паташу і вапны, рапак рос добра, зацьвіў і выдаў зярня. Дасьведчаньне гэнае вучыць нас, што кожная гаспадарская расьліна патрабуе мець адпаведную спажыву ў зямлі, на якой расьце і што спажывай такой для расьліны зьяўляюцца тыя целы, з якіх расьліна складаецца.

### IV. Якія спажывы чэрпаюць расьліны з зямлі, а якія з паветра?

Вельмі важнай рэчай для земляроба ведаць аб тым, якія спажывы чэрпаюць расьліны з зямлі, а якія з паветра. Спажывамі, якія знаходзяцца ў паветры гаспадар распараджацца ня можа. Спажывамі, якія знаходзяцца ў зямлі, можа чалавек да цэўнай меры распараджацца. Гадуючы расьліны ў дайнічках або скрынях, пераканаліся, што для добрага развою расьліны неабходна, каб у зямлі былі тыя целы, з якіх складаецца рась-

---

Скарыны, зазначаем пры аказіі, істнавала ў Вільні аж тры фабрыкі паперы.

Апрача Скарыны 16 век багаты дзеячамі на культурнай ніве: Будны, Цяпінскі, Еўлашэўскі. Гэта быў час пашырэньня ў Беларусі рэфармацыі і выдавецкая праца цьвіце буйна. Кожны з іх патрыёт свайго народу і дбае аб разьвіцьці народнай культуры. Так Цяпінскі кажа: „з убогае свае маетнасьці народу майму услугую“ — заклікае магнатаў і духавенства да закладаньня школаў і сам закладае друкарню. З памятнікаў тагочаснае культурнае дзейнасьці, высоўваецца на чало Літоўскі Статут, які меў тры выданьні 1529, 1566 і 1588 г. Апошняе было надрукована у віленскай друкарні братоў Мамонічаў пад загалоўкам: „Статут Вялікага Князьства Літоўскага, ад найясьнейшага Караля Яго Міласьці Жыгімонта Трэцяга на каранацыю ў Кракаве выданы, року 1588. Друкавана ў вольным месьце Вільні, у друкарні дому Мамонічаў з ласкі і прывілея Караля Яго Міласьці“. Гэта была вялікая кодыфікацыя абавязуючага права, што сьведчыць аб высокім разьвіцьці праўнае веды ў Беларусі (В. К. Л.-Б.).

У статуце відаць ўплывы рымскага права і навейшага правадаўства, але разам з гэтым захованы нацыянальны характар. Культурная вартасьць яго аграмадная. Польскі гісторык Ярашэвіч кажа аб статуце, што: „гэта былі законы лепшыя, чымся тыя, каторыя мела тады Польшча“, а што датыча способу іх укладаньня, дык такога зборніку законаў у 16 сталецьці зусім ня было ня толькі ў палякоў, але і ў другіх народаў. Мова статуту давала патрыятычнае здаваленьне беларусам, аб чым гаворыць у прадмове да статуту Лявон Сапега, пішучы: „Калі сорамна якому народу ня ведаць сваіх правоў, баронячых яго вольнасьць, дык асабліва сорамна было-б тое нам, маючым правы, пісаныя не ў абы якой чужой, а ў сваёй роднай мове“. Мова статуту, блізкая да сяньняшняй народнай. Прыклад з 9 арт. 12 разьдзелу: „А хто-бы ў каго ўкраў вала або карову, сьвіньню або вепра, або аўцу, або казу — іно таму цана за вала пяцьдзесят грашэй“.

Статут устанаўляў адзінства і самастойнасьць гаспадарства, а сваёю беларускаю моваю паказаваў на беларускія культурныя і палітычныя ўплывы ў Вял. Кн. Літ.

ліна. Чым больш гэтых целаў у зямлі знаходзіцца (вада толькі да пэўнай колькасьці), тым большы ўраджай дасьць расьліна. Калі толькі хоць аднаго цела, з якіх складаецца расьліна бракуе ў зямлі, то расьліны зусім ня хочуць расьці. Адзіны вынятак становіць вугаль, якога значныя колькасьці мае кожная расьліна, і які не канечна патрабуе знаходзіцца ў зямлі, каб жывучыя на ёй расьліны маглі выдаць плён. Бо вуглявую спажыву чэрпаюць расьліны з паветра. Некаторыя гаспадарскія расьліны, а ласьне г зв. матыльковыя, як: лубін, сарадэля, віка, гарох, канюшына і іншыя могуць чэрпаць з паветра таксама азот.

Аб гэтым яшчэ пагаворым пасьля.

## Культура пасеўнай-яравой і махнатай-азімай вікі.

Ня ўсе сабе здаюць справу, што ёсьць два гатункі вікі: яравая і азімая; тая і другая маюць свае асаблівасьці.

**Яравая або пасеўная віка (Vicia sativa)** — адна з самых старых культурных расьлін, якая і ў дзікім стане спатыкаецца па ўсёй Эўропе. Яна мае мнoгапёрыстае лісьцьцё з вусікамі, сьцябло трохграннае, фіалетавыя або чырвоныя кветкі не сядзяць на кароткіх цьветаножках і твораць дробныя круглыя трохі з бакоў сплюшчаныя зярняты цёмнага і нават белага колеру, якія заўсёды маюць трохі гаркаваты смак. Расьліна гэта вельмі багата пратэінавымі складнікамі, дае надта добры зялёны корм і культывуецца як у паўднёвых, гэтак і паўночных краёх; добра ўдаецца на ўсялякіх грунтох, толькі пясчаныя і залішне сырыя для яе ня прыгодны. Поле пад віку трэба ўзараць яшчэ з восені і тады-ж вывязьці гной, які заараць. Вясною можна пасеяць віку і добра забаранаваць, каб прыкрыць насеньне. Можна вясною сеяць віку і па раскіданым не заараным гнаі і тады ўсё разам заараць, няглыбока прабаранаваць і прыкачаць поле. Дзеля таго, каб віка не вылягала, яе мяшаюць з аўсом і бяруць для пасеву таго і другога пароўні, або на лепшых грунтох бяруць больш вікі, гэтак пудоў 8, а аўса 6 пудоў, а чым зямля горшая, тым больш бяруць аўса, да 8 пудоў, а вікі 4 — 6 пудоў на гэктар. Пасеў трэба рабіць, як можна раней, а калі хочуць мець у працягу ўсяго лета зялёны корм, то пасеў робяць часьцямі праз які тыдзень, дзён дзесяць. Ніякага спэцыяльнага дагляду вікавая мяшанка не патрабуе, зьбіраюць яе, калі авёс выкіне мяцёлку, а сама віка зацьвіце. З гэктару можна заўсёды мець 120—200 пуд. вельмі добрага сена, а ў добрыя гады бывае больш як 300 пуд. з гэктару. Калі сьпеліць на зярнё, то можна атрымаць ад 50 — 100 пуд. зярнят, адзін пуд якіх у прадажы часта каштуе 8—10 злот.

Другі гатунак вікі—**(Vicia Villasa)**, называецца пясковаю, азімаю або махнатаю, якая надаецца на самыя пясчаныя грунты, розьніцца ад яровай тым, што сьцябло і лісты яе заўсёды пакрыты дробненькімі валаскамі, кветкі фіалетавыя, а самыя зярняты дробныя і круглыя цёмна-сівага колеру.

Сеюць гэту віку, як мяшанку ў восень, разам з жытам і бяруць на гэктар па 3 — 4 пуды таго і другога, хаця часта пры пасеве на зярняты бяруць трэцюю часьць вікі, а дзьве—жыта. Гэтакая мяшанка, як зялёны корм, бывае гатова ўжо ў канцы красавіка або ў пачатку мая і дае надта многа сена, а калі пакінуць яе пасьпець на зярняты, то мякіна—вельмі добры корм для авец, ды і самыя зярняты махнатай вікі надта ахвотна зьядаюцца быдлам, сьвіньнямі і нават коньмі.

Насеньне пясковае або махнатае вікі заўсёды каштуе даражэй, гэтак 35—48 зл. за адзін пуд.

Гэную віку можна сеяць і вясною, толькі тады яна дае позны зялёны корм.

Гатункі вікі вельмі важныя дзеля пасеваў яшчэ тым, што яны як і ўсе матыльковыя (Papilionaceae), да якіх належаць: канюшыны, сарадэля і інш., надта ўзбагачаюць зямлю ў азот і пакідаюць па сабе вельмі чыстае поле.

*Я. Х.*

## Фасоля (Phaseolus vulgaris).

Фасоля або турэцкі боб паходзіць з Індыі і Паўднёвай Амэрыкі. Адразу папала ў Нямеччыну, адкуль разышлася па ўсёй Эўропе.

Фасоля—аднагадовая расьліна, якая разводзіцца і найлепш удаецца на грунтох цёплых, пухкіх, глыбока апрацаваных, але на трэці год па добрым сьвежым угнаеньні, ўсё роўна, як і гарох, толькі напроціў гароху вельмі ўражліва на прымаразкі. Найлепшым насеньнем фасолі будуць бабкі трохгадовыя, дзеля таго што тыя, якія растуць з трохгадовага насеньня, расьліны не разьвіваюць вельмі многа лісьцьця за кошт стручкоў.

Само насеньне фасолі захоўвае сваю сілу ўсходнасьці да 10 гадоў.

Гатункаў фасолі даволі многа і ўсе яны дзеляцца на нізкарослыя або куставыя, якія пасьля трэцяга лістка трэба прышчыпваць, і высокарослыя, або тычковыя.

Высокія сарты трэба сеяць гнездамі і тады да іх даюць падстаўкі або тычкі, а нізкія—радамі.

Як тыя, так і другія гатункі фасолі бываюць позныя, сярэдняраньнія і надта раньнія і разьлічаюцца яшчэ па колеру насеньня, якое бывае: белае, жаўтаватае, стракатае, зеленаватае, фіялетавае і амаль ня чорнае.

Ёсьць яшчэ гатункі фасолі, гэтак званыя „шпараговыя“, стручкі якіх зусім бяз жылак, ядуць іх варачы і зялёнымі і вельмі дужа разводзяць гэтых сартоў у Францыі, Італіі, на Каўказе, дзе гэта фасоля вядома пад назовам „лобі“.

Фасоля вымагае цёплага сонечнага палажэньня, любіць чысты грунт і частае рыхленьне.

У бязьлесных мясцовасьцях добра нацягваць паміж радамі дрот, за які чапляюць шнуркі, на якіх вельмі завіваецца і добра расьце фасоля.

З сартоў фасолі ў прадажы найбольшы попыт маюць белазерныя фасолі.

У адным кілёграме ў сярэднім бывае тры тысячы зярнят і высяваецца на гэктар ад 50 да 100 кілёграм. насеньня. Збор-жа ўраджаю фасолі гэктар можа даць да 1500—2000 кгр. (90-120 пуд.) нізкарослыя гатункі, і да 3000 кгр. (180 пуд.), высокія.

З высокарослых або тычковых лепшымі фа-

солямі будуць: „Цукровая белая“, „Белая мечавідная“, „Віндзорская белая“, „Галендэрская“.

З куставых або нізкіх: „Цэсарская белая“, „Цукровая“. „Флецікавая“, „Фляжоле белая“, Шэврэ—зялёная“, „Трыумф“, „Гінрыха“ і наагул больш як 50 гатункаў рознага колеру. Я. Х.

## Гарбузы (Citrullus vulgaris).

Пад назовам гарбузы правідлова трэба разумець гэтак званыя „кавуны“, якія маюць вельмі сакавітае, салодкае і смачнае мяса і разводзяцца найбольш у цяплейшых краёх, хаця могуць пасьпяваць у цяплейшае лета і ў нас. На Беларусі ёсьць больш вядомыя гарбузы-тыквы, якія разводзяць дзеля іх насеньня, а варанае мяса іх надаецца для ежы людзям і для адкорму сьвіней.

Гарбузы гэтыя растуць вельмі вялікія, часта больш двух пудоў, могуць у сярэднім даваць па два кілёгр. (5 ф.) гарбузікаў і калі іх мець, дзенебудзь на замежках агароду гэтак штук трыста — гэта значыць можна адкарміць пару сьвіней.

Кавуны не растуць надта вялікія ў нас, але ў сырым стане вельмі смакуюць людзям. Культура, як тых, гэтак і другіх вельмі сходная. Самае галоўнае, што гарбузы вымагаюць росту на сьвежых цалінах (адлогах), лепш на чарназёмных або супясочных грунтох і ніколі ня зносяць сьвежага ўгнаеньня. На землях стараорных гарбузы не ўдаюцца, і калі выпадае патрэба там іх садзіць, то вельмі добра даць пад кожную расьліну 3-4 лапаты цаліннае глініста-дзярновае зямлі.

Садзіць гарбузы трэба радамі ў лункі (ямкі) на 2-3 мэтры адна ад аднае. У кожную ямку класьці 2-3 гарбузікі і, як добра ўзыйдуць, пакідаць толькі па аднэй расьлінцы. Паліваць гарбузы толькі ў надта засушлівую пару і садзіць лепш сухім насеньнем.

Хто хоча мець пры культуры гарбузоў ці кавуноў удачу ў сябе на агародзе, таму можна радзіць пашукаць цаліннага грунту, выбранае месца пад гарбузную „бахчу“ узараць на глыб. да 20 цант. летам не пазьней жніўня, вясною поле добра пабаранаваць і прыступаць да пасеву ў канцы красавіка, як настане зусім цёплая пагода. Іншы спосаб — на агарод прывязьці цаліннага грунту і напоўніць ім выкапаныя ў зямлі ямкі, дзе і садзіць гарбузы.

З сартоў гарбузоў-кавуноў найбольш увагі заслугоўваюць: „Астраханскія“, „Карэйскія-раньнія“, „Любімец Пяцігорску“, „Слава Украіны“, „Манастырскія“ і інш.

Гатункі гарбузоў дзеля гарбузікаў (насеньня) найлепшыя: „Стофунтовыя або цэнтнаравыя“, „Булёнскія“ „Жоўтыя ісполінскія“ і інш. Я. Х.

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Добрыя староны саламяных вульлёў.

У папярэднім сваім артыкуле „аб саламяных вульлёх“ я даў агульны пагляд на іх і гэтак сама агульна апісаў, якім спосабам іх можна рабіць, кожнаму, хоць чуць руплівамy, паступовамy пчаляру. Апісваючы гэта ўсё, я памінуў адну надта важную квэстыю, а мяноўна: квэстыю крыткі саламяных вульлёў, з тых часоў, як яны толькі зьявіліся і ўводзіліся ў жыцьцё. Сяньня не падлягае ніякаму сумліву, што саламяныя вульлі ёсьць зусім добрыя і прыгодныя да ўжытку і нічуць пад гэтым паглядам ня ўступаючыя вульлём дзеравяным; а калі яшчэ прыняць пад увагу тое, што яны надта танна абходзяцца кожнаму і што іх кожны надта лёгка можа зрабіць сам, дык можна зразумець, што ў гэтым выпадку нават і перавышаюць вульлі дзеравянныя. Ня глядзячы аднак-жа на гэта, некаторыя крытыкі саламяных вульлёў, аднясьліся да іх надта варожа: не адабрылі іх увядзеньня для пчолак і не прадказалі ім будучыні. Адныя, крытыкуючы саламяныя вульлі, гаварылі, што саламяныя вульлі ёсьць зусім ня моцныя і ня трывалыя; што шкодзіць і дождж і вецер, дзеля чаго яны скора гніюць і трухлеюць, і ня годны дзеля таго да ўжываньня. Рэч зусім зразумелая, што гэта магло-б здарыцца, але ўжо ня толькі з саламянымі, а нават і з дзеравянымі вульлямі, тады, калі-б мы іх як сьлед не агледзілі, прыкладам, каб не памалявалі пакостнай хварбай. Ад сырасьці ўсё гніець і нішчыцца, а гэтая сырасьць зароўна можа завясьціся як у саламяных, так і ў дзеравяных вульлёх.

Зарадзіць гэтаму можа толькі добры дагляд і добрае стараньне руплівага пчаляра, а ня той матар'ял, з якога ёсьць збудаваны вулей.

Бязумоўна, калі мы зробім вулей, ці то з дзерава, ці з саломы і паставім яго на пасецы не памаляваўшы, як сьлед пакостнаю хварбаю, то такі вулей доўга ня будзе служыць нам — бо нацягнуўшы ў свае сьценкі шмат сырасьці ад даждж, надта хутка згніець і струхлеець.

Чамуж-бы ахарона гэта — хварба з пакостам, мела-б толькі прыслугоўваць вульлём дзеравянным, калі мы гэтак сама можам памаляваць вулей саламяны (ці то малаком зьмяшаным з цэмэнтам, ці звычайнаю пакостнаю хварбаю, ці ўрэшце нават гіпсам) і гэтак сама зрабіць іх адпорнымі на вільгаць.

Ёсьць яшчэ адзін закід саламяным вульлём — гэта той, што іх ня можна абараніць ад расплоду матыліцы, а наадварот, што яны яшчэ памагаюць гэтаму расплоду, цераз тое, што салома хоць і моцна зьбітая і сшытая, маець у сабе мноства шчылінак, паміж якіх набіваецца шмат рознага сьмяцьця, ад чаго, заводзяцца ў гэтым сьмяцьці матылічыя яечкі з якіх потым распладжаецца і выводзіцца матыліца, Гэты закід гэтак сама надта лёгка зьбіць, бо так сама ўсё залежыць ад руплівасьці самога-ж пчаляра.

Ня толькі ў саламяным вульлі завядзецца матыліца, а завядзецца ў кожным выпадку, як толькі вулей будзе знаходзіцца ў агульнай нэндзы, а іменна: у вульлі, які маець старую матку, нядольную ўжо да расплоду, мала пчол, зьедзеную і пакрышаную вузу і які маець шмат вільгаці. Так, што запабяжэньне ўсяму гэтаму залежыць ад самога пчаляра. А калі ўжо некаторыя і пужаюцца надта таго, што ў шчыліны паміж саломы можа забівацца шмат сьмяцьця, як: пчаліных адпадкаў, пакрышанай вузы і частак з трупаў памёршых пчолак, то гэтаму ўсяму надта лёгка можна зарадзіць, купіўшы ў краме звычайнае белае паперы і абабіўшы ёю сьценкі вульля ўнутры; усё сьмяцьцё з паперы будзе спадаць на дно, а з дна ўжо мы лёгка можам яго вымясьці на двор. Трэба памятаць толькі, што сьценак унутры ніколі ня можна хварбаваць, альбо пацягаць пакастам, дзеля таго, што пчолкі пакасту надта ня любяць.

Вось-жа закіды крытыкаў, што да саламяных вульлёў, ёсьць зусім ня слушныя. А калі мы яшчэ возьмем пад увагу тое, што яны надта танныя, лёгкія да зробленьня кожнаму, лёгкія, гігіенічныя і цёплыя, а цёплыя праз тое, што салома ёсьць кепскім праваднікам цяпла і холаду, і што ў кожнай саломінцы знаходзіцца паветра, больш-менш мернае сталае цеплаты, якое так сама зьяўляецца кепскім праваднікам цяпла і холаду; дзеля чаго саламяныя вульлі ўзімку есьць цёплыя, а ўлетку ня надта гарачыя — калі прымем усё гэта пад увагу, то сьмела можам сказаць, што будучыня належыць да саламяных вульлёў.

*Пчаляр.*

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Салітэр.

Салітэр, ці як яго яшчэ часам называюць цясемнік, належыць да чужапасаў, гэта значыць да жывяры, якая корміцца на кошт чужога арганізму, ня прыносячы яму, ўзамену, ніякае карысьці. Салітэр мае выгляд падобны да белай плоскай цясёмкі, якую парэзалі на кавалачкі ад 1 да 3 цэнтымэтраў даўжыні, а шырыні да 1 цэнтымэтра, а пасьля ўсе кавалачкі пасклейвалі ў доўгую ўстужку. Кавалачкі гэтыя называюцца праглятыдамі. Апошняя праглятыда заўсёды найбольшая і найстарэйшая, а чым бліжэй да галоўкі тым праглятыды робяцца меншыя. Самая галоўка ня большая, як шпілечная галоўка, а каля яе таксама маленькая шыйка. На галоўцы знаходзяцца прылады, якія памагаюць салітэру прычапіцца да сьценак кішок. Найчасьцей, чалавек заражаецца салітэрам, ядучы кепска пераваранае мяса (валовіну, сьвініну і рыбу). Мяса заражаных сьвіней і быдла бывае крупчатае. Там і сям у мясе спатыкаюцца розная велічыні крупінкі белаватыя. У кожнай такой крупінцы, як у пілюлі, сядзіць зародак салітэра; яго галоўка захаваная ў спэцыяльным мяшэчку, які зноў знаходзіцца ў аточцы з вапны. Калі чалавек зьесьць такое мяса, пад дзеяньнем сокаў жывата, аточка з вапны распускаецца і галоўка вылазіць з свайго мяшэчка, прычапляецца да кішок і салітэр пачынае расьці. Мяса заражанае, парэзанае на дробныя кавалачкі і моцна і добра ўваранае, робіцца няшкодным, бо зародкі салітэра гінуць. Саленьне мяса марынаваньне, сушэньне і дымленьне не гарантуюць ад заражэньня. Яйцо салітэра, якім заражаюцца ад сьвінога мяса, можа разьвівацца часам у чалавеку беспасярэдна і тады чалавек такі таксама мае свае мускулы крупчатыя. Салітэр ня мае ні горла ні кішок, а корміцца, ўцягваючы сокі, назначаныя для арганізму, ўсёй паверхняй свайго цела. Само сабой разумеецца, што калі салітэры залягуць кішкі, то сколькі-б чалавек ні еў, усё паядуць салітэры, а чалавек будзе што раз, то больш худзець. Апрача таго, салітэр выдзяляе атруты, як прадукты—адпадкі сваіх жыцьцёвых патрэбаў, якія атручваюць да пэўнай меры арганізм. Аднак, калі салітэр жыве ў кішках доўга, арганізм паволі прыспасабляецца да яго. Сокі арганізму пераварваючыя ежу, на салітэра ўплыву ня маюць і яму ня шкодзяць. Апрача трох вышэйназваных, спатыкаецца шмат іншых салітэраў. Усе тры салітэры выганяюцца аднолькавым спосабам. Лякарстваў, якія-б забівалі салітэра, няма. Усе лякарствы толькі адурманьваюць яго на пэўны час, а для таго аднача сна даюць хвораму лякарствы, якія выклікаюць ганячку і шыбка выпарожніваюць. Ядуць тады грубую ежу, якая памагае мэханічна выкінуць салітэра разам з калам з кішок. Выганяючы, трэба выгнаць галоўку з шыйкай, бо калі яны астануцца, то салітэр пачне расьці нанова і праз кароткі час адновіцца. Салітэраў ня трэба задаўніваць, а пасьля выкрыцьця іх у сябе, зварочвацца да доктара.

*Я. П.*

### Чыры.

На нашым целе, на паверхні скуры, заўсёды жывуць мільярды гнойных бактэрыяў. Пад мікраскопам яны выглядаюць, як кулькі, а простым вокам іх убачыць ня можна. Няма месца на нашай скуры, каб на ёй ня было гэтых бактэрыяў. Асабліва многа іх у тых людзей, якія рэдка мыюць сваё цела. Жывучы на паверхні нашага цела, гэтыя бактэрыі множацца і кормяцца адпадкамі нашае скуры і да таго часу, пакуль яны знаходзяцца толькі на скуры, бактэрыі нам шкоды ня робяць. Але калі яны дастануцца якім-небудзь спосабам у глыбейшыя слаі нашага цела, ці нават глыбей, у поры гэтае самае скуры, на якой жывуць, то выклікаюць хваробы.

Калі гнойныя бактэрыі мы самі ўватром у поры нашага цела, (дзірачкі ў скуры, праз якія выходзіць пот і лой), то паўстаець чыр, дзеля таго, што ў порах бактэрыі пачынаюць множыцца і выдзяляюць атруту, а арганізм пасылаець у гэтае месца свае сокі на барацьбу з імі. Чыр-гэта маленькі, звычайна востра закончаны нарыўчык. Нашая вопратка, асабліва калі яна цьвёрдая, моцна трэцца аб нашае цела, а тручыся ўціраець гнойныя бактэрыі ў поры скуры. Найчасьцей чырыкі бываюць, на шыі, калі людзі кепска мыюць шыю і носяць цьвёрдыя стаячыя каўняры, і на твары ў ваколіцы вусоў і барады, ад таго, што выціраючы соплі лапішчай ці рукою мы ўціраем гнойныя бактэрыі ў скуру. Гнойныя бактэрыі асабліва любяць цукар. У нашай крыві заўсёды ёсьць крыху цукру, але ёсьць хвароба гэтак званая цукроўка, калі ў крыві чалавека заўсёды шмат цукру; ў такіх асобаў маленькі чырык прадстаўляе ўжо вялікую нябясьпеку, бо іх робіцца што раз больш, ня хочуць гаіцца, і можа прыйсьці да гэтак званага Антонавага агню. Гнойныя бактэрыі, трапляючы ў нашае цела, здольны тварыць гэтак званыя перакіды. Гэта значыць, што, напрыклад, вытварыўся чырык на шыі, з яго бактэрыі якім-небудзь спосабам праніклі ў кроў, а кроў можа разьнясьці іх па цэлым арганізьме. Частка іх астаецца ў крыві, яны множацца і ўрэшце кроў выглядае ў жылах жоўтая, як гной, другая частка бактэрыяў, разьнесеных па цэлым арганізьме, асядаець у розных тканях нашага цела і, множачыся там, вытвараець новыя чыры і большыя нарывы—перакіды. Гэта і есьць Антонаў агонь (гнойнае заражаньне крыві і цела), калі чалавек за жыцьця як-бы гнойціца. Перакіды могуць быць у печані, у вантробах, на скуры, ў мазгох і г. д. Трапляючы ў кроў у невялікай колькасьці, могуць гэтыя бактэрыі выклікаць запаленьне сэрца (endocarditis). У грамадзянстве

прынята чырыкі выціскаць. Рабіць так ня трэба, бо гэта дужа небясьпечна. Выціскаючы чырык, мы можам гной выціснуць ня толькі навонкі, але таксама ўціснуць яго разам з бактэрыямі ў кроў і гэтак выклікаць перакіды, ці агульнае гнойнае заражэньне (Антонаў агонь). Лепш не чакаць, пакуль чырык сам прарвецъ, бо тады бактэрыі самі могуць праесьці жылку і трапіць у кроў, а лепш чырык прарэзаць і такім спосабам выпусьціць гной з бактэрыямі. Трэба памятаць, пратыкаючы, ці прарэзваючы чыр, аб тым, каб не ўвясьці новых бактэрыяў у зробленую пры прарэзцы рану. Можна ўзяць голку і ёю лёгка зьдзёрці самую вострую вяршынку чырыка, не кранаючы глыбей. Перад тым трэба голку прапаліць да чырвонасьці, каб бактэрыі, якія сядзяць на ёй, згарэлі, ці ўкінуць яе на 20 мінут у чысты сьпірт. Калі голку прапальвалі, то трэба даць ёй выстудзіцца і не датыкаць да вострага канца яе нічым, а, барані Божа, не прабаваць пальцамі ці астудзілася, бо зноў набярэм на яе бактэрыяў. На скуры нашай, як я ўжо сказаў, шмат месьціцца бактэрыяў і пратыкаючы мы можам іх загнаць голкаю ў ранку. Чырык, каб гэтага ня было, трэба абмыць цёплай вадой з мылам, пасьля добра вымыць чыстым сьпіртам (можна дэнатурай) і тады толькі пракалоць. Затым чырыкі трэба трымаць у цеплаце і чыстаце, каб не даць можнасьці пранікаць у рану іншым бактэрыям, і каб ранка магла скора і добра гаіцца. Завязваць толькі бінты ці ткацкія лапінкі.

*Я. П.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Звальненьне з вастрогу пасла Ярэміча.

17 сакавіка ўвечары звольнены з вастрогу на Лукішках пад нагляд паліцыі пасол Ярэміч. Пасол Ярэміч прасядзеў у вастрозе амаль што месяц. Як відаць з таго, што пасол Ярэміч аддадзены пад нагляд паліцыі, судовая справа проці яго не скасована.

### Дом Беларускае Культуры.

Нова абраны ўрад Беларускага Навуковага Т-ва ў асобах грам. грам. Трэпкі, Р. Земкевіча, С. Паўловіча, б. сэн. Уласава, І. Савіцкага, і д-ра Дварчаніна пастанавіў на сваём апошнім паседжаньні правясьці зборку на рэч будовы „Дому Беларускае Культуры“.

### Арганізацыя скаўтаў у Беларускіх Гімназіях.

Пры Віленскай і Радашкавіцкай беларускіх гімназіях паўсталі жаноцкія дружыны скаўтак.

### З жыцьця Студэнскага Саюзу.

Хутка мае выйсьці з друку другі нумар часопісі „Студэнская Думка“ — органу Беларускай Студэнскай Моладзі.

### Новы старшыня Белар. Студэнскага Саюзу.

На агульным сходзе Беларускага Студэнскага Саюзу, які адбыўся 13.III.1928 г., выбраны новы старшыня Саюзу, Ігнат Гагалінскі, мэдык. Папярэдні старшыня Т. Куніцкі падаўся ў адстаўку ў выніку пратэсту проціў нетактычных паступкаў на адной з вечарынак.

### Сьмерць Пётры Крэчэўскага.

8.III.1928 г. пасьля цяжкае хваробы памёр у Празе Чэскай на 49 г. жыцьця Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, П. Крэчэўскі, які ўвесь час пражываў за межамі Беларусі.

### Забастоўка віленскіх газэт.

У зьвязку з паданьнем весткі аб забойстве М. Гурына былі сканфіскованы віленскія польскія часопісі. У знак пратэсту выдаўцы гэтых газэтаў спынілі выданьне іх на тры дні. Толькі „Dziennik Wileński“ ня выходзіў толькі 2 дні, да трэцяга не дацягнуў.

### Арышты камуністых.

У апошнія дні паліцыя выкрыла камуністычныя арганізацыі ў Навагрудчыне, ў Горадне і ў Лодзі. Сябры яе арыштованы і пасаджаны ў вастрогі.

# Апошнія навіны.

**Польска-літоускія перагаворы.** 30-га сакавіка г. г. пачнуцца ў Кэнігсбэргу (Усходняя Прусія) польска-літоўскія перагаворы.

На чале літоўскай дэлегацыі будзе стаяць прэм'ер літоўскі праф. Вальдэмарас. Кіраўніцтва польскае дэлегацыі абыймае міністар заграпічных справаў Залескі.

**С. С. С. Р. Арышты нямецкіх інжынераў у Данецкім вугальным басэйне.** Галосным рэхам разышліся па цэлым сьвеце, асабліва па Нямеччыне арышты нямецкіх інжынераў, якія на просьбу Саветаў прыехалі працаваць у савецкіх прамысловых акругох. Справа прадстаўляецца наступна. Некалькі дзён таму назад былі арыштованы ў данецкім вугальным басэйне нямецкія інжынеры і тэхнікі, якія працавалі там з даручэньня салідных нямецкіх фірмаў. Урадовы савецкі камунікат па поваду праведзеных арыштаў, закідаў арыштаваным „спэцам“ (спэцыялістым), што яны працавалі на шкоду Саветаў, дэзарганізуючы савецкі промысел у паразуменьні з даўнымі ўласьнікамі вугальных капальняў. Ніякіх канкрэтных абвінавачаньняў пакуль што ня высунена.

Характарна, што ў мамэнт арыштаў Саветы вялі перагаворы з Нямеччынай аб рэвізіі папярэдняга гандлёвага дагавору. Саветы мелі атрымаць з Нямеччыны новыя крэдыты, так патрэбныя ў сучасны мамэнт Саветам. Перагаворы былі на зусім добрай дарозе, так што крэдыты Саветы атрымалі-б. Тымчасам дзякуючы арыштам нямецкіх інжынераў перагаворы перарваны.

Нямецкі ўрад праз сваго пасла ў Маскве дамагаўся пабачаньня з арыштованымі і дапушчэньня нямецкіх адвакатаў бараніць падчас працэсу арыштованых.

Саветы аднак адмовіліся дамаганьне нямецкага ўраду споўніць.

Арышты нямецкіх інжынераў выклікалі прыкрае ўражаньне сярод заграпічных гандлёва-прамысловых колаў, якія стараліся наладзіць адносіны з Саветамі. Некаторыя заграпічныя групы, якія вялі працу на абшары С. С. С. Р. пакідаюць працу і выяжджаюць, баючыся таго самага лёсу, які сустрэў нямецкіх інжынераў.

Група рэпрэзэнтантаў вялікага амэрыканскага канцэрну „Falquahra" і шмат заграпічных інжынераў пакідаюць Саветы.

Апошнія весткі падаюць, што арыштованы таксама чэскія інжынеры, якія працавалі ў землябробскіх коопэратывах, якія куплялі машыны.

Агулам арышты „спэцаў", у іх ліку заграпічных інжынераў, зьяўляюцца вялікай сэнсацыяй. Чым яны абаснованы трудна вытлумачыць. Адно толькі ведама, наколькі Саветы ахвотна прымалі да сябе на працу заграпічных спэцыялістаў, цяпер гэныя спэцыялісты там не паедуць. Далей тыя прамысловыя, заграпічныя колы, якія давалі свае капіталы Саветам, і падымаліся адбудовываць розныя галіны савецкага промыслу цяпер капіталаў не дадуць. Што гэта грозіць эканамічным крызысам Саветам кожны ведае.

**Румынія. Палітычны крызыс у Румыніі.** Адбыўся ў Букарэшце зьезд румынскай нацыянальнай сялянскай партыі. Зьезд адбыўся спакойна хоць урад прыняў усе меры асьцярожнасьці, каб не дапусьціць да бунту. Вайсковы гарнізон быў павялічаны, сьцягнута войска з правінцыі і г. д.

Сялянская партыя, на чале якой стаіць праф. Маніу, імкнецца вярнуць на трон сына нябошчыка Фэрдынанда, Кароля.

Зьезд пастанавіў дамагацца адстаўкі ўраду і расьпісаньня новых выбараў. Рэгэнцыя адмовіла гэтым дамаганьням. Тады сялянская партыя заявіла, што выходзіць з парляманту і будзе вясьці барацьбу з цяперашнім урадам.

**Грэцыя. Камуністычныя маніфэстацыі у Афінах.** У Афінах, сталіцы Грэцыі, мелі месца камуністычныя маніфэстацыі. Камуністыя закідалі каменьнямі паліцыю. Маніфэстантаў разагналі, шмат камуністых арыштована.

**Японія.** Падаюць, быццам Японія вядзе тайныя перагаворы з Саветамі ў справе раздзелу сфэры ўплываў дзяржаваў у Манголіі і Манджурыі і ў выпушчэньні савецкай пазыкі ў Японіі.

# Аб усім патроху.

## Каб гэтак усюды!

У Слоніме паўстала павятовае Таварыства Народных Дамоў, якое мае на мэце стварэньне трывалага фундамэнту для згоднага сужыцьця ўсіх нацыянальнасьцяў, засяляючых Слонімскі павет. Для зьдзейсьненьня гэтае мэты Т-ва хоча пабудаваць цэлую сетку народных дамоў па ўсім павеце, з каторых маглі-б карыстацца ўсе нацыянальнасьці, засяляючыя павет. Разумеючы, якое вялікае значэньне мае рэалізацыя гэнае думкі, павятовы Слонімскі Соймік асыгнаваў на будову 5000 зл., заклікаючы ўсе валасныя самаўрады, каб у свае буджэты таксама паўстаўлялі пэўныя сумы на гэную патрэбу.

## Разводы ў Савецкай Расеі.

Паводле дадзеных Камісарыяту Унутраных Справаў, у працягу 1927 г. адбылося ў Савецкай Расеі 526.000 шлюбаў, а разводаў за гэты час было 126.000. Такім чынам амаль што на кожныя 4 вянчаньні прыпадаў у 1927 г. адзін развод. Асабліва шмат разводаў было ў Маскве, дзе ў працягу паўгоду было 12.800 вянчаньняў і аж 9.970 разводаў.

Сяляне ў Расеі разводзяцца ня так пагалоўна, бо на 14.840 вянчаньняў на сялянства Маскоўскае губ. прыпадае 4.730 разводаў (на 4 вянчаньняў 1 развод).

## Дагэтуль гандлююць нявольнікамі.

Паліцыя ў Трыполісе прыпадкова напала на сьлед гандлю нявольнікамі, якім займалася адно арабскае племя ў Фэццане. Аказалася, што неаседлыя горды Сэнусьсітаў дагэтуль вядуць таргоўлю людзьмі, якіх здабываюць нападамі на суседнія плямёны. Да места Трыполісу прыбыў караван, ведзены цераз нейкага Могаммэда бэн-Амора, ён меўся закупіць аружжа і жыўнасьць для банды разбойнікаў, якія вялі паляваньні на людзей. Паліцыя арыштавала прыбыўшых з караванам людзей, бо атрымала данос, што яны вязьлі групу нявольнікаў, пераважна маладых дзяўчын, з якіх адну 18-летнюю ўдалося ім ужо прадаць за 2000 ліраў (але знаходзяцца ў нашыя часы і ахвотнікі-купцы!), а таксама прадалі маладых хлопцаў—пры гэтым 10-летніх прадавалі па 1000 ліраў, а 14-летніх па 1600 ліраў. Караван меў пры сабе яшчэ 12-летнюю дзяўчыну, якую прабавалі прадаваць у самым Трыполісе.

Гэтая дзяўчына расказала паліцыі, што яе і другіх сілаю забрала банда Бэдуінаў, якая напала на сяленьне. Пры гэтым бэдуіны пазабівалі ўсіх мужчынаў, а маемасьць разрабавалі. Дзяўчын і хлапцоў бэдуіны прадалі Магаммэду Бэн Аморы, прафэсіянальнаму гандляру нявольнікамі. Ён цяпер арыштованы, сядзіць ў трыполіскай турме і чакае прыгавару суда.

## 51 год у турме.

А вось як бывае ў амэрыканскіх судох. У турме гораду Charlestown (чыт. Чарльстоўн), штату Massachusets сядзіць адзін вязень ужо 51 год. Называецца ён Brown (чыт. Браун) і мае цяпер 66 гадоў. Маючы 15 гадоў, ён забіў вучаніцу і быў асуджаны на сьмерць. Аднак, дзеля таго, што быў яшчэ няпоўналетні, заменена яму кара сьмерці на вечную турму. І сядзіць вось у ёй ужо 51 год.

Нядаўна падаваў ён просьбу аб звальненьні, але ў просьбе было адмоўлена.

Адмова, выпусьціць яго з турмы матывована тым, што для яго, які прабыў у турме 51 год, нельга будзе прывыкнуць жыць на волі і маніфэст для яго нічога добрага не прадстаўляе. Такім чынам, судовыя ўлады дбаючы аб вязьні, які ўжо 51 год сядзіць у турме, толькі дзеля таго ня хочуць выпусьціць Брауна з турмы, што ён не патрапіць жыць на волі. Хоць гэтая аргумэнтацыя ўлады дзіўная, але сапраўды, што астаецца рабіць чалавеку, які аж 51 год прасядзеў у турме і мае цяпер 66 гадоў.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Уміастоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3